РЭДКІЯ ЛЮДЗІ

# Сяргей ДОЎГУШАЎ: «Нашаму народу патрэбна песенная тэрапія»

*На канцэрце ён раскладвае перад сабой з паўтузіна музычных інструментаў. І бярэ ў рукі то флейту, то колавую ліру, то дуду-спарыш, то жалейку, то акарыну. Народныя песні ў яго выкананні разварушваюць слухачоў, знікае мяжа паміж імі і сцэнай, людзі пачынаюць падпяваць. У рэпертуары заснаванага ім гурта «Vuraj» – забытыя песні нашых бабуль. Арганізаваныя ім спеўныя сходы выйшлі з канцэртных залаў на вуліцы і плошчы. Гэта пра такіх, як Сяргей ДОЎГУШАЎ, у народзе здаўна гаварылі: і швец, і жнец, і на дудзе ігрэц. Пра свае прафесійныя і жыццёвыя захапленні спявак і музыкант пагадзіўся расказаць у рэдакцыі «Народнай Волі».*



**– Сяргей, нашы выканаўцы любяць паплакацца: з заламі праблема, людзей сабраць складана і г.д. А вось ты нядаўна зладзіў шыкоўны песенны канцэрт памяці Рыгора Барадуліна ў прэстыжнай зале «Верхні горад». Гэта было складана зрабіць?**

– Нескладана. З канцэртамі памяці Барадуліна як быццам нехта дапамагае, можа, сам дзядзька Рыгор... Гэтым разам сабраліся тры калектывы – «Варган», «Vuraj» і «Коліснія». На жаль, у нашым грамадстве існуе пэўны стэрэатып: фальклор – гэта вясёлы дадатак да чарговых Дажынак, дзе «чарка на пасашок» і салёных жартаў мяшок. Але народная песня – з'ява куды больш складаная, у ёй адбілася ўсё наша беларускае быццё. А калі яна гучыць, як у «Верхнім горадзе» – пад выдатную акустыку, з добрым святлом, з адладжаным гукам, – то відовішча атрымліваецца незабыўнае.

**– Пацвярджаю, што так і было. На сцэне адначасова знаходзілася чалавек 30. Дзе ты адшукваеш столькі маладых людзей, захопленых беларускімі народнымі песнямі?**

– Сышоўшы з Белдзяржфілармоніі, я стварыў сваю арганізацыю «Традыцыя» і шукаю аднадумцаў па ўсёй Беларусі, часам прадзюсірую нейкія калектывы. Летась мы арганізавалі фестываль «Раёк», удзельнікамі якога былі спеўны гурт з Полацка «Варган» і капэла «Коліснія», якая выконвае танцавальную музыку. Хлопцы не толькі выдатныя музыкі, але і ўнікальныя майстры. Скажам, Дзяніс Сухі вырабляе ліры і дуды, а Сяргей Чубрыкаў – цымбалы.

**– Ты на іхніх інструментах іграеш?**

– І на іхніх таксама, бо здаўна захапляюся драўлянымі духавымі інструментамі. У маёй калекцыі іх шмат. Ліра – ад Сяргея Чубрыка, а знакаміты гродзенскі майстар Мар'ян Скрамблевіч зрабіў мне акарыну. Звычайна яны гліняныя, а мая драўляная, таму мае ўнікальны глыбокі тэмбр.

**– Восем гадоў ты адпрацаваў у сталічнай філармоніі. Мультыінструменталіст, спявак, арганізатар спеўных сходаў... Калі ты сыходзіў адтуль, уся філармонія плакала і рыдала?**

– Ды не, кіраўніцтва філармоніі, відаць, уздыхнула з палёгкай. Калі я там працаваў, мяне неаднойчы выклікаў ідэолаг – то я засвяціўся на святкаванні гадавіны БНР, то не з тым сфатаграфаваўся. Маўляў, вы ж супрацоўнік дзяржаўнай установы... А гады тры таму я выйграў стыпендыю польскага Міністэрства культуры. Мне спачатку дазволілі ехаць у Польшчу, потым забаранілі. Да таго ж я адкрыта выказваўся супраць прыгону ў філармоніі. Напрыклад, творчы план у мяне як саліста – 6–8 канцэртаў на месяц. То навошта мне хадзіць на працу штодня? Неяк мяне выклікалі ў аддзел кадраў і папярэдзілі, што звольняць за прагулы… І я вырашыў сысці.

**– Не шкадуеш, што стаў вольным мастаком?**

– Не шкадую. Я падумваю ўжо сваю «філармонію» стварыць. Скажам, хачу ў розных гарадах адкрыць школкі, дзе дзеці вывучалі б традыцыйныя спевы, вучыліся іграць на дудзе ці ліры. Упэўнены – падобныя заняткі будуць запатрабаваны. Калі я пачынаю спяваць у школе «Сядзіць сыч на капе, / а сава на другой – / гой-гой-гой», дзеці адразу ажыўляюцца. Тут важна, як фальклор падносіць. Не трэба школьнай дыктатуры: стаміліся – ручкі склалі, я вам на фартэпіяна пакажу... А калі без павучанняў зайграеш на дудачках, на ліры – дзецям адразу падабаецца.

**– Гады два таму ты напалохаў усіх сваіх прыхільнікаў: маўляў, з'язджаю жыць у ЗША. Хацелася «пашукаць шчасця-долі на чужым далёкім полі»?**

– Не, тут іншае. Справа ў тым, што мая жонка Віялета Нікіцік у 2018 годзе выйграла грын-карту, і мы паехалі разам. З канцэртамі я на працягу шасці месяцаў аб'ездзіў шмат беларускіх суполак – выступаў у Нью-Ёрку, Бостане, Чыкага, у многіх гарадах штатаў Агаё, Каліфорнія, Флорыда. Былі выступленні і ў двух універсітэтах.

**– Спявачка Валянціна Пархоменка і кампазітар Зміцер Яўтуховіч таксама спачатку гастралявалі ў ЗША, а потым і прыжыліся там. У цябе не было такога жадання?**

– Я не магу пакінуць Беларусь. Беларускую народную песню трэба найперш папулярызаваць тут. У ЗША я настолькі засумаваў па радзіме, што калі вярнуўся адтуль, то адразу арганізаваў тры фестывалі. І як толькі пачуў спевы бабулек, у мяне слёзы на вачах выступілі, настолькі гэта сапраўднае! Але выязджаць за мяжу ўсё ж трэба – сябе паказаць і на другіх паглядзець.

**– А жонка падзяляе тваё захапленне народнай песняй?**

– Віялета – маё натхненне, дзякуючы ёй я ажыццявіў шмат праектаў. Зразумела, жыць з артыстам няпроста. Таму што я 24 гадзіны займаюся любімай справай. Спаць кладуся з тэлефонам у руках: званю, пішу, абмяркоўваю праекты. Жонка паводле спецыяльнасці псіхолаг, а раней таксама спявала ў народным калектыве. Яна, бывае, ездзіць са мной у экспедыцыі ці на выступленні. У ЗША мы ўвесь час разам ездзілі – з яе дасканалай англійскай мовай я пачуваўся больш упэўнена.

**– Дагэтуль ходзіць розгалас пра ваша вяселле, якое адбылося летась на музейнай сядзібе «Стулы» ў Пружанскім раёне. Здаецца, нават не ўсе разабраліся, куды трапілі – на вяселле ці на фальклорны фэст.**

– Мы з Віялетай спачатку проста распісаліся, зрабілі сціплае сямейнае застолле, і ўсё. А праз год у «Стулах» сумясцілі вяселле з фальклорным фэстам. Туды маглі трапіць усе жадаючыя, купіўшы квіток. На застоллі было ўсё народнае – ад страў да строяў. Атмасфера была проста касмічная – яе стварылі ажно 14 песенных калектываў. Кожны з іх прэзентаваў нейкі абрад – ад каравая да віншаванняў маладым. А які бацюшка быў у нас! Васіль Лясько з вёскі Стахава Столінскага раёна, які арганічна спалучае ў сабе тры іпастасі. Ён сапраўдны святар – больш за 40 гадоў аддаў служэнню царкве, за што быў праследаваны камуністычным рэжымам. Ён сапраўдны сем'янін і захавальнік сямейных каштоўнасцяў – выхаваў чацвярых дзяцей. І ён сапраўдны беларус – ведае на памяць і спявае сотні народных палескіх песень. Мне ўсё жыццё хацелася пабыць хоць госцем на такім вяселлі. І вось мая мара збылася – пабываў жаніхом!

**– Нядаўна я таксама пабываў на сваяцкім вяселлі. Вянчанне адбылося на беларускай мове ў зэльвенскай Свята-Троіцкай царкве. Застолле – у аграсядзібе, аздобленай па-беларуску з гістарычным ухілам. Але цягам усяго вяселля не прагучала ніводнай беларускай песні…**

– Гэта сапраўдная бяда – з нашых застолляў зніклі родныя песні. А ў нас іх – сотні! «Традыцыя» ўжо некалькі дыскаў выдала пад назвай «Бяседныя песні» (застолле з чаркай нашы продкі называлі бяседай). Гэта проста цэлая філасофія. Скажам, на адным з дыскаў – песня ў выкананні маці Рыгора Барадуліна Куліны Андрэеўны: «*Дайце, мне дайце сем чарак гарэлкі! / А першую дайце, каб я пасядзела, / а другую дайце, каб я пасмялела, / а трэцюю дайце, каб я папяяла, / чацвёртую дайце, каб я пагуляла… / А сёмую дайце – коней запрагайце*». Песня трымала чалавека ў пэўных рамках.

**– Лічылася, што ледзь не апошніх носьбітаў аўтэнтычнай народнай песні запісалі Ігар Лучанок з Уладзімірам Мулявіным. Але, як выглядае, крыніца гэта невычэрпная. І сёння не звяліся народныя спевакі?**

– Дзякуй Богу, не звяліся! Асабліва на Палессі. Мы часта выязджаем туды, для нас гэта проста свята душы. Помню, запісвалі бабулю ў Драгічынскім раёне, слухаю песню «Ой ляцела зязюленька», а ў канцы – «за ліцвіна выйду замуж, яго мову перайму». Пытаюся: хто такія ліцвіны? Яна кажа: «Ліцвіны там за ракой, а мы тут – багнюкі». Больш нідзе я не чуў такой паляшуцкай саманазвы. А нядаўна мы ездзілі ў Бярэзінскі раён – там дасюль жыве абрад «Цягнуць каляду на дуб». А ў Любанскім раёне Сяргей Выскварка арганізоўвае цэлыя фестывалі. Ён, дарэчы, быў выдатным сватам на нашым вяселлі.

**– У паэме Янкі Купалы «На Куццю» адзін з герояў, тройчы абышоўшы сваіх суайчыннікаў, расказвае Князю: *«За мною ўсцяж і тут, і там / іх вусны бледныя шапталі: / Аддайце песню нашу нам! / Нашто схавалі-расхапалі?»*. Паэма напісана 110 гадоў таму. Сённяшнія беларусы таксама маглі б усклікнуць «аддайце песню нашу нам»?**

– Я думаю, так. Нашы людзі зусім не ведаюць, напрыклад, беларускіх песень часоў Вялікай Айчыннай вайны, працягваюць спяваць савецкія песні. А былі ж і свае, у тым ліку партызанскія.

**– Прызнацца, і я не ведаю беларускіх партызанскіх песень. Апрача «Ой бярозы ды сосны, партызанскія сёстры».**

– Светлай памяці Ніл Гілевіч аднойчы паказаў мне спеўнік, дзе быў цэлы раздзел «Песні ваеннага часу». Я многія перапісаў, бо таксама ніколі не чуў. Вось, напрыклад, «Марш віцебскіх партызанаў»: «*Ніколі не згіне ад лютых пажараў / вялікі і слаўны наш Край. / У бой за Радзіму збірайся, таварыш, / ідзі партызаніць у гай. / На прускага ката / за вёску і хату / кліч помсты народнай заве. / Ідуць у атаку лясныя салдаты, / грукочуць гранаты, грымяць аўтаматы – / жыве Беларусь! Жыве!*». Словы моцныя і сапраўды адлюстроўваюць дух таго часу.

**– У нас на Дзень Перамогі па тэлебачанні і радыё па-ранейшаму гучыць «Венскі вальс»: «Как будто он волжские видел разливы, как будто Россию обнял»...**

– Таму мы і папулярызуем песні беларускія. Яны вельмі меладычныя, таму і кранаюць сэрцы. Напрыклад, «Было ў салдата два полі» ці «Із далёкіх із краёў / йшлі салдацікі дамоў». Я думаю, з цягам часу людзі заспяваюць сваё. Бо ў песні – дух народа, мова народа. Песня гучыць, і яе не спыніць, яна – як сцяг.

**– Хай не крыўдуюць нашы апазіцыйныя палітыкі, але на свае кангрэсы яны не збіраюць столькі народу, колькі прыходзіць на твае спеўныя сходы. Пра што гэта сведчыць? Людзям так надакучыла палітыка, ці іх так вабіць родная песня?**

– Думаю, людзі стаміліся ад палітыкі. Мы папулярызуем песню, яна людзям бліжэй. Да нас прыходзяць не проста пастаяць ці за нешта прагаласаваць, у нас людзі спяваюць. Мне вельмі хочацца стварыць маштабнае свята песні, каб на яго сабраліся тысячы чалавек! Калі ў такім шматгалоссі загучыць народная песня, тая ж «Купалінка», – будзе проста здорава.

**– Хтосьці назваў твае спеўныя сходы песеннай тэрапіяй. Ад чаго можна вылечыцца пры яе дапамозе?**

– Ад унутранай дысгармоніі, калі ў душы чагосьці не хапае, перарвалася пупавіна роду. Беларусам якраз патрэбна песенная тэрапія. Пасля супольных спеваў адразу настрой змяняецца, на абліччах расцвітаюць усмешкі. Песня і яднае людзей, і дорыць ім хвіліны радасці. Як пісаў той жа Рыгор Барадулін, «*песню і агонь людзі перахоўвалі з пакалення ў пакаленне, са стагоддзя ў стагоддзе*». Агонь «навучыўся» перахоўвацца сам, а вось песню наступнікам перадаць – наш абавязак.

**– Нядаўна стала вядома, што на конкурс «Еўрабачанне» ад Беларусі паедзе дуэт «VAL» з беларускамоўнай песняй «Да відна». Ты чуў яе?**

– Чуў. Для гэтага конкурсу песня падыходзіць, хоць я зрабіў бы яе на дзвюх мовах – па-беларуску і па-англійску. Жадаю дуэту не разгубіцца ў Капенгагене і выдаць па максімуме, на ўсю Еўропу. На «Еўрабачанні» ўвогуле заўсёды прысутнічае нацыянальны каларыт. Я не кажу, што трэба выйсці ў вышыванках і зайграць на дудах. Трэба ўсё рабіць сучасна, але з нацыянальнай адметнасцю. Такім чынам патрабуюцца: галасісты артыст з камандай прафесіяналаў, наша мелодыя, песня-мікс і нацыянальны каларыт. І тады ўсё атрымаецца.

**Міхась СКОБЛА.**

ФОТАФАКТ

## Необычный подарок

*В белорусской столице прошел женский забег «Beauty Run».*



Преодолеть дистанции в два и пять километров вышли около пяти тысяч представительниц прекрасного пола. Соревнования были приурочены ко Дню женщин и проводились в пятый раз.

Победительницы и призеры получили подарки и денежные призы, а все остальные, кто добежал до финиша, – цветы.

Фото: minsknews.by.

ФУТБОЛ

## Хто згуляе ў прынцыповым матчы?

*Галоўны трэнер зборнай Беларусі Міхаіл Мархель вызначыўся з пашыраным спісам гульцоў, выкліканых на матч плэй-оф кваліфікацыі EURO-2020 супраць каманды Грузіі.*



Пашыраны склад нацыянальнай каманды ўключае 33 футбалісты.

**Варатары:** Аляксандр Гутар («Шахцёр», Салігорск), Павел Паўлючэнка («Дынама-Брэст»), Ягор Хаткевіч («Іслач», Мінскі раён), Антон Чычкан (БАТЭ, Барысаў).

**Абаронцы:** Аляксандр Мартыновіч («Краснодар», Расія), Дзяніс Палякоў, Мікалай Золатаў (абодва – «Урал», Расія), Сяргей Паліцевіч, Сяргей Мацвейчык, Ігар Бурко (усе – «Шахцёр»), Мікіта Навумаў («Жэтысу», Казахстан), Аляксандр Паўлавец («Дынама-Брэст»), Максім Швяцоў («Дынама-Мінск»), Сяргей Карповіч («Іслач»).

**Паўабаронцы:** Сяргей Кісляк, Міхаіл Гардзяйчук, Павел Савіцкі (усе – «Дынама-Брэст»), Станіслаў Драгун, Ігар Стасевіч, Павел Няхайчык, Яўген Яблонскі, Дзмітрый Бага (усе – БАТЭ), Іван Маеўскі, Макс Эбонг (абодва – «Астана», Казахстан) , Мікіта Корзун («Вілафранкенешэ», Партугалія), Юрый Кавалёў («Арсенал», Расія), Іван Бахар, Уладзіслаў Клімовіч (абодва – «Дынама-Мінск»), Дзмітрый Падстрэлаў («Шахцёр»).

**Нападаючыя:** Максім Скавыш, Антон Сарока (БАТЭ), Віталь Лісаковіч («Шахцёр»), Ілля Шкурын (ЦСКА, Расія).

Канчатковы спіс з 23 футбалістаў вызначыцца 23 сакавіка, паведамляе прэс-служба Беларускай федэрацыі футбола.

Нагадаем, 26 сакавіка зборная Беларусі згуляе ў Тбілісі матч плэй-оф кваліфікацыі чэмпіянату Еўропы-2020. Матч пачнецца ў 20.00 па беларускім часе.

**Віктар ШПАК.**

УЛЫБНИТЕСЬ!

***

Отец воспитывает сына-студента:

– Вместо того, чтобы учиться, ты, дурак, все по девкам бегаешь!

– Понимаешь, папа…

– Заткнись! Кто тут отец, ты или я?

– Оба, папа, оба…

***

Дураков на свете мало. Но расставлены они так грамотно, что встречаются на каждом шагу.

***

Покупательница в ювелирном магазине:

– Извините, что деньги так намокли… Уж очень муж плакал, когда мне их отдавал.

***

Как только находишь свою половинку, вокруг начинают бродить другие половинки и заставляют тебя сомневаться.

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ


Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 09.03.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 012 экз. Заказ № 882.